Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 14 Пятніца 20 Ліпня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОР[...] БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Беларуская асьвета.

Пасолы і сэнатары безпартыйнага блёку супрацоўніцтва з Урадам Віленскага і Наваградзскага ваяводзтваў на апошнім агульным паседжаньні прынялі цэлы шэраг пастановаў у галіне беларускага школьніцтва, аб якіх мы падаем у другім месці. Пастановы гэтыя, калі-б яны толькі былі праведзены ў жыцьцё, значна маглі-бы здавольніць патрэбы беларускае асьветы.

Пытаньне аб беларускай школе настолькі стала актуальным, што на яго зьвярнула ўвагу на'т польскае грамадзянства. Ласьне той факт, што гэтым пытаньнем занялася найлічнейшая ў Сойме і Сэнаце група, якой зьяўляецца блёк супрацоўніцтва з Урадам, дае права спадзявацца, што гэтае адно з найбольш балючых беларускіх пытаньняў будзе нарэшце парушана з таго тупіку, у які загналі яго папярэднія эндэцка-пястаўскія ўрады.

Зусім зразумела, што ад гэтых пастановаў «адзінкі» да поўнага здавальненьня патрэбаў у галіне беларускага школьніцтва яшчэ далёка, што першыя пастаўкі яшчэ ня робяць вясны, хаця бяз іх і ня бывае вясны. Яшчэ мала добрай волі дый жаданьняў аднэй «адзінкі». Шмат будзе залежыць і ад таго, як да гэтых пастановаў «адзінкі» аднясуцца іншыя соймавыя групы і партыі.

У цяперашнім Сойме, як ведама, урадавая апазыцыя, у склад якой уваходзяць між іншым і нацыянальныя меншасьці разам з беларусамі, мае значную перавагу. Хаця мы ня дапушчаем думкі, каб нацыянальныя меншасьці з тых ці іншых пабудкаў сталі на перашкодзе гэтых пачынаньняў «адзінкі». Але калі-б на'т група нацыянальных меншасьцяў і падтрымала яе ў гэтым кірунку, дык усё-ж такі можа нехапіць некалькі галасоў да патрэбнае большасьці ў Соуме. І тутака акурат паўстае пытаньне аб тых, хто найбольш даваў абяцанак перад выбарамі. Мы маем на ўвазе польскіх сацыялістаў, якія, як ведама, вельмі шмат абяцалі і нам, беларусам, перад выбарамі і якія адыгрываюць цяпер кіраўнічую ролю сярод соймавае апазыцыі

Дык цяпер ласьне прадстаўляецца магчымасьць Пэпээсам паказаць свой запраўдны твар. Хіба-ж не захочуць выступаць проці гэтых пастановаў «адзінкі» радзі толькі апазыцыі да Ураду Маршалка Пілсудзкага з сваіх тактычных меркаваньняў.

І калі толькі «адзінка» паважна трактуе закранутае пытаньне, у чым мы ня маем права сумлевацца, дык можна спадзявацца, што яшчэ у гэтым годзе на дзенным парадку соймавае працы будзе пастаўлена пытаньне аб беларускім школьніцтве, вырашэньне якога значна прычынілася-бы да аздараўленьня адносінаў у нашым Краі.

Але і мы самі не павінны чакаць са складзенымі рукамі, пакуль нам не дадуць гатовае. Паварот на лепшае ў нашых пытаньнях сярод польскага грамадзянства павінен прыдаць і нам большай энэргіі і ахвоты у дамаганьні зьдзейсьненьня гарантаваных Канстытуцыяй грамадзянскіх правоў у надзеі, што гэтыя высілкі не прападуць дарма.

# Будуйма свае жыцьце на каапэратыўных падставах.

Усе мы ,Беларусы, ведаем, што наша цяжкае, гаротнае жыцьцё істуне толькі дзякуючы нашай неарганізованнасьці. Замест моцнай масавай арганізацыі пануе дэзарганізацыя, кожны жыве паасобна. А гэткае расьцярушанае жыцьцё ніколі не вызваліць з кайданаў беднасьці і нядолі, хаця паасобныя адзінкі і будуць меаць той ці іншы дабрабыт.

Усё гэта мы добра разумеем, але нажаль мала клапоцімся, каб наладзіць сваё жыцьцё на арганізованых падставах. Замест гэтага, узялі ды аддалі наладжываць сваё жыцьцё нашым так званым павадыром, якія нават і не думаюць, каб направіць беларускае жыцьцё ў русло арганізованнасьці. Уся іх праца сводзіцца к таму, каб стварыць як мага больш розных партыяў пад гучным сялянскім назовам, а пасьля бязупынна лаяцца між сабой, пашыраючы такім чынам партыйную грызьню.

Вось гэта апошняе і павінна прымусіць кожнага сьведамага Беларуса задумацца аб тым, як выйсьці з палажэньня. А выхад ёсьць. Трэба будаваць сваё жыцьцё самім, а не аддаваць у рукі розным павадыром; трэба будаваць сваё жыцьцё не на партыйных абяцанках, а на каапэратыўных началах, на тых началах, на якіх збудавалі ды і ўсьцяж будуе сваё жыцьцё наш заходня-эўрапэйскі таварыш.

Калі ўзяць жыцьцё нашага найбагацейшага сяляніна і параўняць з жыцьцём нямецкага, ці іншага заходня-эўропэйскага селяніна, то акажацца, што дабрабыт нашага селяніна будзе выглядаць нікчэмным. Такая вялізарная рожніца між нашым беларускім жыцьцём і заходня-эўропэйскім тлумачыцца тым, што сваё жыцьцё заходня-эўропэйскі грамадзянін пабудаваў, як я ўжо сказаў, на падвалінах арганізованага, хаўруснага, творчага супрацоўніцтва, інакш кажучы — прынцыпах каапэрацыі. Пахваліцца гэтакай структурай свайго жыцьця нашае грамадзянства, нашае сялянства ня можа. Ідэя каапэрацыі, або супольная, хаўрусная праца сярод нас пашырана слаба. Нашыя павадыры, нажаль, ня хочуць гэтага рабіць. А калі гэтак, то бярэмся самі будаваць сваё жыцьцё. Гуртуймася пад сьцягам каапэрацыі. Закладайма рожныя каапэратыўныя арганізацыі. Памятайма, што каапэрацыя здабудзе нам эканамічны дабрабыт, назаўсёды забясьпечыць нас ад эксплёатацыі рожных прыватных гандляроў, перакупшчыкаў і інш. Той лішні грош, які пераплачываем гандляром, пойдзе на нашы культурна-асьветныя мэты; створыць свае крэдытныя таварыствы, дзе знойдзе патрэбны грош у трудную гадзіну.

Апрача гэтага каапэрацыя будзе меаць вялікі ўплыў і на маральны воблік нашага грамадзянства. Прыцягіваючы нас да працы, асабліва вёскавае грамадзянства, каапэрацыя прывучыць нас да сумленнай, адказнай працы, да арганізованага жыцьця, да салідарнасьці, прывучыць вясяліцца, сумаваць і разам бараніць свае інтарэсы.

Праз каапэрацыю беларускае грамадзянства, як арганізованая адзінка, здабудзе сабе ўсе грамадзкія і палітычныя правы. Агулам кажучы, каапэрацыя паможа нам пры нашым бязьзямельлі і бяднаце заваяваць тое, што дае багатым людзям капітал. Самае-ж галоўнае, што можа даць Беларускаму Народу каапэрацыя, дык гэта важную дапамогу ў той барацьбе за свае нацыянальныя і сацыяльныя правы, за якія беларускі народ вядзе геройскую барацьбу і па сяньняшні дзень.

Дык грамадзяне, будуйма сваё жыцьцё на каапэратыўных падставах!

*Пчолка.*

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

У „Сялянскай Ніве“ (№ 33) замест перадавіцы зьмешчана прамова пасла Ф. Яраміча на паседжаньні Сойму у справе амнэстыі. Паміж іншым, крытыкуючы і ўдаводняючы, што амнэстыя для беларусаў нічога не дае, ён ўносіць прапазыку ад імя пасольскага беларускага клюбу, каб у амнэстыі быў дададзены новы пункт наступнага зьместу:

„Пускаюцца ў забыцьцё ўсе справы, зьвязаныя са справаю г. зв. Беларуска-Работніцкай Грамады.“

Аб пастанове адзінкі у справе беларускага шкальніцтва „Сялянская Ніва“ піша:

„Трэба прызнаць, што гэтыя пастуляты, хоць ня зусім, аднак у значнай меры задавольваюць дамаганьні Беларусаў. Але маем прыклады, што гаворыцца і дэкляроўвацца адно, а выконваецца другое.

Мы з свайго боку дададзім, што калі-б нашыя паслы да гэтае справы пайшлі больш-менш прыхільна, дый дадалі-б і сваіх высілкаў, дык напэўна-бы тое, што дэкляруецца адзінкай, было-бы праведзяна ў жыцьцё.

У газэце „Народ“ (№ 13) зьмешчана прамова пасла Янкі Станкевіча ў справе бюджэту Міністэрства Зямельных Рэформаў. Між іншым ён кажа:

Што тычыцца зямельнай рэформы, дык найгалоўнейшая загана тая, што пры парцэляцыі мусяць купляючы зямлю плаціць за яе гатоўкай, а дзеля гэтага немагчыма купіць зямлі бедным земляробам, а топькі багатым. Каб гэтага ня было, трэба плату за зямлю разлажыць на раты на 50 год, тады з зяммельнай рэформы скарыстаў-бы бедны земляроб.

Далей ён датыкаецца асадніцтва, дзе кажа, што:

Мы ніколі ня згодзімся на польскае асадніцтва на беларускіх землях.

і заканчвае прамову аб вадах лясной гаспадаркі.

„Сьцяг Працы“ у № 3 у передавіцы „Сялянства і „Сялянская Ніва“ высьвятляе саадносіны паміж Сялянствам і „Сялянскай Нівай“ і між іншым піша:

„Сял. Ніва“ фактычна зьбівае сялянства з адзінае праўдзівае дарогі супольнай барацьбы з усімі працоўнымі за супольныя правы, дзеліць працоўных між сабою і гэтым самым капае роў для магутнага руху працоўных, ідучы поруч з буржуазіяй з яе правілам „divida et impera“ (разьдзяляй і валадай).

Нашыя рэдыкалы у ва ўсім толькі і бачуць правідловы шлях... у барацьбе з буржуазіяй.

---

# Пісьмо ў рэдакцыю.

*Паважаны пане Рэдактар!*

Прашу зьмясьціць у Вашай паважанай газэце наступнае:

У зьвязку з тым, што ў польскіх газэтах з'явіліся ананімныя зацемкі, аўтар якіх хоча зрабіць з майго асабістага інцындэнту з А. Якімовічам праяву барацьбы ўнутры беларускіх арганізацыяў, гэтым катэгарычна сьцвярджаю, што ўвесь гэты інцыдэнт не мае абсалютна нічога супольнага ні з беларускімі арганізацыямі, ні з іх унутраным жыцьцём, а ёсьць маей прыватнай справай з А Якімовічам.

17—VII 28 г. З пашанаю

**М. Дыбоўскі.**

АД РЭДАКЦЫІ. Не апраўдаючы гэтага самачыннага выступленьня п. М. Дыбоўскага, за якое ён асабіста адпавядае, аднак-жа мусім даць высьвятленьне гэтага факту, бо добра ведаем, хто хаваецца за плячмі гэтае сыстэматычнае „траўлі“ групы п. Т. Вернікоўскага, распачатай пісьмом М. Станкевічанкі ў газэце „Народ“ ад 10 траўня.

Мы пісалі тады... „Цёмныя сілы заварушыліся“. Міна, выпушчаная праз Станкевічанку, паказвае пачатак атакі“...

І атака сапраўды пачалася, кіраваная за плячмі патаемнай „рукой з партфэлем“ якая націскае ўсе кнопкі. Не знайшоўшы падтрыманьня ў беларускай прэсе, кінуліся ў польскую і расейскую. Стварылася нейкая няведамая „група 14-ці“, пачалося пісаньне нейкіх „мэмар'ялаў“ і абіваньне парогаў у Ваявудзтве, у Янкі Станкевіча, у Ф. Умястоўскага, а на‘т і ў Вярнікоўскага.

Але заместа Станкевічанкі ўжо вылязьлі на сцену А. Якімовіч і Я. Ярош.

Нарэшце ў Варшаўскай расейскай газэце „За Свабоду“ паявілася пісьмо „самога“ А. Паўлюкевіча, які ўжо гавора і сьцьвярджае нейкую пастанову 14-ці, якой фактычна ня было і якія самі ад Паўлюкевіча адхрэшчываюцца. Пасьля „сам“ улятае ў рэдакцыю „Грамадзяніна“ і наносіць славамі абразу п. Т. Вернікоўскаму.

Але на гэтым не канчаецца. Зьяўляецца пісьмо ў расейскай газэце „Утро“ за подпісам Якімовіча, які, пераліваючы адны і тыя самыя бруды, ўжо выразна абражае і рэвізыйную камісію.

Чаша цярпеньня перапоўнілася. Штодзенная сыстэматычная траўля ў працягу амаль што 4 месяцаў вывяла на‘т з раўнавагі зусім супакойнага сябру Рэвізыйнае Камісіі п. М. Дыбоўскага, які пры першым выпадковым спатканьні з А. Якімовічам ня вытрымаў і зняважыў яго чынна. І добра толькі, што гэта здарылася пры 2-х сьведках а на‘т і не беларусах, бо сапраўды выглядала-б як „напад“, як замэльдаваў аб гэтым у Ваяводзтве А. Якімовіч і як гэта зараз-жа „закамунікавала„ ў польскія газэты тая самая патаемная „рука з партфэлям“, якой відаць нагвлат хочацца зусім прыватны інцыдэнт раздзьмухаць у справу грамадзкае вагі.

---

Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы перадайце суседу!

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Канец польска-літоўскіх перагавораў у Варшаве.

14 ліпня закончыліся польска-летоўскія перагаворы у Варшаве, якія пасьля 2 тыдняў ня далі ніякіх вынікаў. Літоўская делегацыя выехала да дому праз Беласток, Горадню і Граева.

### Закон аб амнэстыі.

„Dziennik Ustaw" Nr 70 ад 14 ліпня г.г. зьмяшчае закон ад 22 чэрвеня 1928 г. аб амнэстыі з прычыны 10 угодкаў здабыцьця незалежнасьці Польскаю Дзяржавою. Закон уваходзіць у жыцьцё ад дня апублікаваньня. Ён падпісаны Прэзыдэнтам Рэспублікі, прэм'ерам і міністрамі унутраных справаў, ваенных, скарбу і юстыцыі.

### Прапаганда стасаваньня штучных гнаёў.

Урад мае замер выступіць з ініцыятываі правядзеньня сярод дробнага ральніцтва прапаганды стасаваньня штучных гнаёў. З гэтаю мэтаю ў Міністэрстве Гандлю і Прамысловасьці адбылася канфэрэнцыя з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і прадстаўнікоў цэнтральных ральнічых арганізацыяў. Будзе выбрана спэцыяльная камісія, якая зоймецца рассылкаю штучных гнаёў для паасобных дробных рольнікаў. Кошты, зьвязаныя з гэтаю прапагандаю, будуць пакрыты з скарбовага фонду.

### Безрабоцьце зьменшаецца.

Упрацягу другога тыдня ліпеня безрабоцце зьменшылася на 3,643 асобы, панізіўшыся да 112,604 асоб, у гэтым ліку 29,396 жанчын. Гэта датычыць толькі бебработных, зарэгістраваных у бюро пасрэдніцтва працы.

## ЗАГРАНІЦАЮ.

### Няма дыму без агня.

З Масквы паведамляюць, што быццам у зьвязку з узмацненьнем ваеннай дзеяльнасьці Польшчы, Румыніі Прыбалтыйскіх рэспублік радавы урад рашыў выслаць да Коўны асобую ваенную місыю на чале з Будзённым заданьнем якой будзе стварэньне ваеннага камітэту між Літвою і С.С.Р.Р". Савецкае тэлеграфнае агэнства Тас запярэчвае гэтым чуткам.

### Ратаваньне таварышаў гэн. Нобіле і Амундсэна.

Расейскі ледакол „Красін" выратаваў дзьве групы няўдалай экспэдыцыі на паўночны полюс італьянскага гэн. Нобіле, якіх не маглі ўратаваць аэрапляны, а другі ледакол „Малыгін" уратаваў нарвэскага дасьледчыка палярных краёў Амундсэна, які выляцеў на францускім аэраплане на пашуканьне разьбіткаў аэрастата „Італіі" і сам згінуў.

# Тутэйшая хроніка.

**— Пастановы рэгіональнага камітэту адзінкі ў справе беларускага шкальніцтва.** 4 ліпеня ў Вільні адбылася паседжаньне Віленска-Наваградзкага кола паслоў і сэнатараў з клюбу „Безпартыйнага блёку супрацоўніцтва з Урадам", на якім была прынята наступная рэзалюцыя:

Кола прызнае патрэбным:

1. Зрабіць дзяржаўным беларускае шкальніцтва ў межах, якія будуць аб'ектыўна сьцьверджаны патрэбамі жыхарства;

2. Зьмена закону ад 31 ліпеня 1924 году ў справе шкальніцтва у кірунку, каб было магчыма выканаць першы пункт, і каб спыніць нацыянальную барацьбу ў галіне школьніцтва шляхам спыненьня г. зв. школьных плэбісцытаў і ўтраквістычнай сыстэмы;

3. Якнайхутчэйшае скасаваньне акульніка міністра Дабруцкага ад 30 сакавіка 1927 г. да безшкольных абводаў.

4. У зьвязку з гэтым перагляд пастанаўленьняў аб адчыненьні начатковых школаў, прынятых на аснове школьнага плебісцыту ў 1927 годзе;

5. Утварэньне з пачаткам наступнага школьнага году беларускае дзяржаўнае вучыцельскае сэмінарыі ў Вільні.

6. Да часу ўдзяржаўленьня прыватных беларускіх гімназіяў у Вільні і Наваградку фінансавая помач зароўна ім, як іх бурсам (інтарнатам);

7. Наданьне гэтым гімназіям з пачаткам наступнага школьнага году прававой грамадзкасьці;

8. Паскольку гэта будзе праведзена ў жыцьцё, ператварэньне беларускіх гімназіяў у Радашкавічах і Клецку ў дзяржаўныя беларускія 7 клясовыя пачаткавыя школы, альбо ў прафэсіянальныя;

9. Утварэньне ў Віленскім Унівэрсытэце катэдры, альбо лектаратаў беларусазнаўства;

10. Утварэньне пры Віленскім Куратарыуме рэфэратаў беларускага шкальніцтвам і камісіі дзеля апрацоўкі і выданьня праграмаў выву-

чэньня і падручнікаў для беларускіх школаў з вучасьцем прадстаўнікоў культурна-асьветнага беларускага руху.

Апека Дзяржавы над беларускім музеем у Вільні і выдача яму матэр'яльнае помачы.

12. Увядзеньне ў паўночна-ўсходніх ваяводзтвах школьнага самаўраду, які існуе ў цэнтральных ваяводзтвах.

— **З Т-ва „Беларуская Хатка“** Рэвізыйная Камісія „Т-ва Беларуская Хатка у Вільні“ ужо амаль што закончыла сваю працу і прыступае да ўкладу пратаколу. Пратакол абайме 2 пярыёды: 1) ад 15/I 17 да 15/II 28 г. пярыёд гаспадараваньня А. Паўлюкевіча і 2) ад 15/II 28 да 1 — III 28 г. ё 15 дзён гаспадараваньня Т. Вернікоўскага. У насупным нумару „Грамадзяніна“ пратакол, трэба думаць, будзе ўжо надрукованы, а гэтак сама і вызначэны тэрмін агульнага сходу сяброў „Хаткі“, на разгляд якога і паступіць ўся праца рэвізыйнае Камісіі з усімі кнігамі і матэр'ялам.

Трэба спадзявацца, што гэткія самыя справаздачы дадуць і б. Старшыні А. Паўлюкевіч і А. Якімовіч, бо акцэптацыя праз іх саміх свайго расходу за гэты пярыёд больш як у 100.000 зл. зусім зразумела выклікае патрэбы акцэптацыі агульнага сходу, а тым больш, што большасьць сяброў „Хаткі“ ёсьць сябрамі і іншых паўлюкевічаўскіх арганізацыяў, на якія гэтыя грошы прадвызначаліся і якім пазасталася неаплачаная праца.

— **З жыцця Беларускага Студэнскага Саюзу.** У месяцы жніўні сёлетняга году адбудзецца ў Парыжы чарговы X зьезд Міжнароднае Студэнскае Конфэдэрацыі (С К), да якой дзякуючы стараньням пражскіх беларускіх студэнтаў далучылася і беларускае Студэнства. Вось-жа на ўспомнены зьезд паедзе дэлегацыя і ад беларускага Студэнства. Маюць выехаць некалькі прадстаўнікоў з Прагі і двух з Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні Апошнімі на гэты зьезд абраны: Ігнат Гачалінскі і Аўгень Бартуль.

— **З Бел. Селянскага Саюзузу.** 14 ліпеня адбылося паседжаньне цэнтральнага Камітэту Бел. Сялянскага Саюзу.

— **З Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** Бел. Інст. Гаспадаркі і Культуры адчыняе у наступным вучэбным годзе пачатковыя школы у вёсцы Рудаўка, Слонімскага пав. Шаўляны, Браслаўскага пав., і у вёсцы Максімаўкі Маладэчанскага пав.

— **З Нац. камітэту № 2.** 14 ліпеня адбыўся гадавы сход Беларускага Нац. камітэту, які паўстаў у мінулым годзе пад старшынством сэн. Багдановіча. На парадку дня між іншымі справамі разглядалася справаздача Прэзыдыуму і перавыбары. А што-ж Камітэт № 1

— **З Т-ва Беларускае Школы.** 15 ліпеня адбыўся ў Міры зьезд сяброў Т-ва Беларускае Школы Стаўпецкага павету.

— **З Беларускага Навуковага Т-ва.** Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні атрымала на „Дом Беларускае Культуры ў Вільні“ чыстага даходу з канцэрту-лекцыі „Вечар Славянскае Песьні“, адбыўшагася ў Віленскай Беларускай Гімназіі 17 мінулага чэрвеня — 250 злотых.

— **Прыватныя Беларускія школы Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** На існуючыя прыватныя беларускія школы ў в. Рудаўка, Слонімск. п. і ў в. Шаўляны, Браслаўскага пав. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Вільні падаў заяву аб канцэсіі на 1928/29 школьны год. У сувязі з гэтым высьнілася, што канцэсія на школу ў Рудаўцы зьяўляецца сталай (заўсёднай).

На жаданьне жыхараў в. Максімаўкі, Радашкаўскае вол., Маладэч. пав. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры пастанавіў заложыць у в. Максімаўцы прыватную беларускую школу. Заява аб канцэсіі ўжо пададзена да Маладэчынскага Школьнага Інспэктара.

— **Статут Банку.** Выйшаў з друку Статут Беларускага Коопэратыўнага Земляробска-Прамысловага Банку ў Вільні. Хто хоча атрымаць Статут, павінен прыслаць у Дырэкцыю Банку (Вільня, Вострабрамская 8—1) паштовых марак на 25 грош.

— **Беларсукі аддзел на Паўночна Усходняй выстаўцы.** Т-ва Беларускае Школы пастанавіла прыняць вучасьце ў Паўночна-Усходняй прамыслова гаспадарчай выстаўцы, якая мае ў хуткім часе адчыніцца ў Вільні. Т-ва пастанавіла залажыць камітэт дзеля арганізацыі беларускага аддзелу на ўспомненай выстаўцы.

Як падаюць газэты, падобны намер паўстаў у пасла Я. Станкевіча, які пры помачы заложанага ім „Гаспадарчага Зьвязу“ прыйме вучасьце ў выстаўцы. Дзяржаўны Зямельны Банк асыгнаваў яму на гэтую мэту 3.000 зл.

**„Хто-ж бярэ ўдзел у выстаўцы?** „Сьцяг Працы“ кажа, што Камітэт Выстаўкі даў мейсца для Беларусаў на выстаўцы Навуковаму Таварыству, адначасна адмаўляючы „Гаспадарскаму Зьвязу“ Я. Станкевіча, а Я. Станкевіч ў сваім „Народзе“ робіць абвдстку аб выстаўцы і на'т указвае адрэс свайго Гаспадарчага Зьвязу, куды Беларусы павінны высылаць свае экспанаты.

Дзіўная рэч! На'т і тутака ня могуць Беларусы пагадзіцца.

— **Спэктакль вандроўнага тэатру Акружной Рады „Прасьветы“.** 12 ліпня адбыўся спэктакль у Вялейцы, 22 ліпня адбудзецца ў Ваўках Ашмянскага павету. Будуць пастаўляныя п'есы „Боты“, „Зьбянтэжаны Саўка“ і „У доктара“.

— **Артыста Сцэнсновіч у Вільні.** Вядомы артыст, рэжысёр і супрацоўнік Ф. Аляхновіча п. Мікалай Сцэнсновіч прыбыў у Вільню

ў вотпуск. Апошнія 3 гады ён вандраваў па нашым Краю з расейскай тэатральнай трупай.

Хто з віленскага беларускага грамадзянства не атрымліваў прыемнасьці, бачучы стаўленыя і рэжысёраваныя ім п'есы у Бел. Музыкальна-Драматычным Гуртку ў 1821, 1922, 1923 гадох?! Хто ня плёскаў яму ў захопленьні пры выкананьні ім роляў у камэдыях і апярэтках пад псэўдонімам Счасны?!

Бліжэйшы супрацоўнік Ф. Аляхновіча, нашага артысты і драматурга-пісьменніка, ён быў заўсёды першым рэжысёрам яговых новых твораў.

П. М. Счэсновіч ізноў хоча вярнуцца на беларускую сцэну і мае думкі з'арганізаваць сталы беларускі тэатр у Вільні. Каб нашыя культурна-асьветныя арганізацыі, якТ-ва Школы, „Інстытут" і „Прасьвета", хоць-бы ў гэтым кірунку аб'ядналіся і прышлі-б з дапамогай яговым намерам, дык і Вільня і правінцыя сапраўды атрымалі-б праўдзівае эстатычнае задаваленьне.

Патрэбна толькі грашовая запамога, а сілаў артыстычных хопіць.

**— Ксёндз Гадлеўскі звольнены з вастрогу.** Вядомы беларус кс. Гадлеўскі згодна з амнэстыяй застаўся выпушчаны на вольнасьць з Макатоўскага вастрогу.

**— Рэха Жодзішак.** Паліцыя арыштавала некалькі тыдняў назад у Жодзішскім касьцеле грам. М. Ярмака і Сг. Грыба. Арыштаваныя перавезяны ў Лукішскі вастрог. Паслы з Бел. Хрысьціянскай Дэмакрацыі робяць энэргічныя захады перад судовымі ўладамі дзеля звальненьня арыштаваных.

**— Дзе адбываюць кару нашыя паслы.** Як нас інфармуюць, б. пасол Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі знаходзяцца у вастрозе ў Грудзёнцу, у тым самым, дзе сядзіць і Кавэрда, а Мятла і Валошын у Вронках.

**— Сэнатар Б. Рагуля-сябрам Наваградскай ваяводзкай Рады.** 5 ліпеня адбылася паседжаньне Наваградзкага Сойміку, на якім адбыліся выбары сябры ваяводзкай Рады Наваградчыны. Выбраны быў беларускі сэнатар Б. Рагуля· Пасьля выбару сэн. Б Рагуля сказаў прамову, у якой дзякаваў прысутным сябрам Наваградзкага Сойміку за даверра і падкрэсьліў, што ён уваходзіць у Ваяводзкую Раду як прадстаўнік беларускага насельніцтва. Аднак праграмай яго працы будзе не палітыка, але імкненьне да палепшаньня быту насельніцтва Наваградчыны.

**— Пастанова Адвакацкай Рады ў Вільні ў справе прафэсара К. Пэтрусэвіча.** 25 чэрвеня адбылося паседжаньне Адвакацкай Рады ў Вільні, на якім разглядалася справа звальненьня з Віленскага Унівэрсытэту праф. К. Пэтрусэвіча з прычыны выступленьня ў абароне Грамады. Прынята рэзалюцыя, якая ганіць становішча Сэнату У. С. Б. Рэзалюцыя паслана да ведама Варшаўскай Адвакацкай Рады і Сэнатаў усіх Унівэрсытэтаў у Польшчы.

**— Справа праф. Пэтрусэвіча.** У выніку агульнага абурэньня, якое ахапіла ўсё грамадзянства зароўна польскае, як беларускае з прычыны пастановы Сэнату Унівэрсытэту у Вільні, апошні мае намер зьмяніць сваю пастанову і узнавіць кантракт з праф. Пэтрусэвічам.

**— Справа выбараў у Лідзкай акрузе.** Найвышэйшы Суд у Варшаве зажадаў ад старшыні Акружной Камісіі ў Лідзе ўсіх выбарчых актаў і жалабаў, якія злажылі прадстаўнікі паасобных сьпіскаў. Пастанова Суду з'яўляецца вынікам стараньняў прадстаўнікоў № 18 (Блёк Нац. Меншасьцяў), які быў у сваім часе ўневажнены

**— Справа выбараў войта Тарноўскай гміны Лідзкага павету.** Лідзкі стараста не зацьвердзіў выбараў войта ў Тарноўскай гміне. Як ужо пісаў „Грамадзянін", войтам выбраны быў гр. Міхал Кузюта.

**— Пасьляваенная адбудова Наваградчыны.** У часе вайны на абшары наваградзкага ваяводзтва зьнішчана было 6899 жылых будынкаў, 10588 будынкаў гаспадарчых і 105 будынкаў грамадзкага характару (школы, царквы і г. д.). Га 1 траўня 1928 году жыхарства адбудавала:

1) Пры помачы Дзяржаўнага Скарбу 1947 жылых будынкаў, 1129 гаспадарчых і 8 грамадзкіх;

2) Уласнымі сьродкамі: 2750 жылых будынкаў і 4348 гаспадарчых. Дагэтуль не адбудована 2292 жылых будынкаў, а ў гэтым ліку 672 гаспадаркі зусім ня маюць даху над галавой, 807 сямействаў жыве ў зямлянках, альбо бараках, пабудаваных з гнілых матэрьялаў, якія знаходзіліся ў нямецкіх акопах і 723 сямейства ня могуць скончыць распачатай адбудовы дзеля недахопу грошаў. Таксама не адбудавана 5092 гаспадарскіх будынкаў. З грамадзкіх не адбудавана 97 будынкаў, у гэтым ліку 18 школаў, 12 цэркваў, 1 будынак гмінага ўраду і 2 шпіталі.

**— Разьвіцьцё прамысловасьці ў Наваградчыне.** У чэрвені м-цы Наваградзкае ваяводзтва зацьвердзіла 8 праэктаў будовы новых фабрыкаў, у большасьці дзеля абработкі дрэва. Выняткак робіць фабрыка кафляў у Лідзе. Апрача гэтага ў Лідзе арганізуецца вялікая фабрыка калошаў і апонаў да самаходаў. У ліпні маюць павялічыць прадукцыю шкляныя гуты ў Нёмні і Іўі. Апрача гэтага ў Акружчае Дырэкцыі Грамадзкіх Работаў у Наваградку ляжыць некалькі яшчэ не зацьверджаных праэктаў.

**— 1.000.000 зал. на адбудову Наваградчыны.** Міністэрства Грамадзкіх Работаў асыгнавала у 1928/9 бюджэтным годзе адзін мільён залатых на адбудову зьнішчаных вайной гас-

падарак. У найбліжшых днях грошы будуць падзеляны па паветах.

**—2.000 гэктараў на парцэляцыю.** Дырэкцыя Дзяржаўнага зямельнага банку пастанавіла купіць некалькі маёнткаў з абшарам у 2.000 гэктараў з мэтай парцэляцыі гэтае зямлі паміж малазямельнымі.

**— Субсыдыя для хутароў.** Міністэрства Зямельных Рэформаў асыгнавалі Нясьвіжскаму Сойміку 21.088 зал. на культурна — зямельную працу сярод хутарных гаспадарак.

**— Будова чыгуначнай лініі Варапаева — Друя.** У канцы ліпеня адбудуцца таргі на будову першага вучастка чыгуначнай лініі Варапаева—Друя.

**— 1000 зал. для пагарэльцаў.** Лідзкі павятовы аддзел атрымаў з Наваградзкага ваяводзтва 1000 зал. на помач для пагарэльцаў.

**— З Таварыства Беларускае Школы.** 8 ліпня ў мястэчку Сьвіслачы адбыўся зьезд сяброў і дэлегатаў гурткоў Т-ва Беларускае Школы Ваўкавыскага і Бельскага паветаў, а 12 ліпня адбыўся агульны сход сяброў Горадзенскага павету ў Горадні з мэтаю перавбараў акружной Управы

**— Канфіскацыі.** Па загаду Гарадзкога Старосты сканфіскаваны № 2 часопісі „Сьцяг Працы" і адозва Беларускага Сял. Раб. Клюбу.

**— Чырвоны певень.** 3 ліпеня з няведамай прычыны згарэла вёска Вольная, Баранавіцкага пав. Зьнішчана пажарам 22 жылыя памешканьні і 59 гаспадарчых будынкаў.

У вёсцы Галавачы, Дарэўскае гміны згарэла 19 будынкаў.

У вёсцы Міцкевічы, Малчадзкае гміны згарэла гумно з запасамі.

Каля вёскі Бярозкі, Астроўскае гміны згарэла 3 гэктары Дзяржаўнага лесу.

# Карэспандэнцыі.

## Да жанчын нашых вёсак!

Прэзыдыум Аддзелу ім. Я. Купалы ў в. Румянцаве, гм. Беніцкай, пав. Маладэчанскага пастанавіў зьвярнуцца да жанчын бліжэйшых вёсак з наступным заклікам:

Аддзел імяні Янкі Купалы, які існуе ад 1.I.1928 г., зрабіў ў гэты час шмат чаго добрага на культурна-асьветнай ніве ў гэтым цёмным кутку нашай Бацькаўшчыны Беларусі. Ня будзем тут пералічаць тую плодную працу, якая вялася гуртком. Вы гэта самі добра ведаеце і не раз былі на спэктаклях, ладжаных Драматычнай Сэкцыяй Аддзелу. Пэўна-ж карыстаецеся кніжкамі з бібліатэкі і чытальні гэтага аддзелу і г. д.?

Калі глянем на сьпісак сяброў, то ўбачым паважны лік — 40 сяброў. Але сяброваk толькі тры. Чаму гэта так? Ці гэта Вас не прымаюць у сябры Т-ва? Ці Вы горш часу ня маеце, як мужчыны? Як адно, так і другое ня ёсьць гэтаму прычынай. А Вы прост прывыклі да такой табэлі тасавацца, ня глядзячы на тое, што карыстаецеся роўным правам як і мужчыны. Вам трэба карыстаць з усяго, трэба зьвяртаць увагу на гаротнае жыцьцё нашае Бацькаўшчыны на тыя цёмныя цені, якія сяньня блудзяць. Трэба прасьвятляць тых яшчэ сягодня цёмных братоў. А найлягчэй гэта рабіць, калі запісваецеся ў культурна-прасьветнае кола Беларускага Таварыства „Прасьвета". Вы шмат чаго зробіце гэтым на карысьць сваім братом, якія сяньня гінуць у цемры.

Дык запісвайцеся ў сябры гэтага аддзелу! Працуйце! Бо ў супольнай нашай працы ляжыць залог нашай лепшай будучыны.

Жанчыны! Старыя і Маладыя! Уступайце ў сябры і гэтым Вы аблягчыце працу нашага аддзелу. Мы поўнай веры, што заклік наш знойдзе одгук у Вас, Жанчыны!

**Прэзыдыум Аддзелу ім. Я. Купалы**
**Бел. Т-ва „Прасьвета" у в. Руманцава,**
**гм. Беніцкай, пав. Маладэчанскага.**

10.VI.28.

## З вясковага жыцьця.

(Нясьвіскі пав.).

Жыцьцё вёскі Нясьвіскага пав., за малым выняткам, мала чым розьніцца ад такога-жа самага жыцьця іншых мясцовасьцей нашае Беларусі. Тыя-ж самыя плацім падаткі, адбываем павіннасьці, звычай, абычай і г. д. Што можна адцеміць, дык гэта дарожную павіннасьць, асабліва ў гэтым годзе. Справа ў тым, што Нясьвіскі Соймік пастанавіў да 1930 г. выбрукаваць усе дарогі ў павеце, зусім ня лічачыся з матар'яльным станам агулу сялянства.

Згодна з гэтаю ухвалаю, з наступленьнем вясны распачаліся работы, якія для большасьці сялян зьяўляюцца зусім не па сілам. Адбываць гэту павіннасьць прыходзіцца натураю і грашыма. Апрача гэтага падвысіліся на 50 проц. іншыя выдаткі, як страхоўка і проч. У сувязі з гэтым выдаткі па гаспадарцы падняліся ў некалькі раз, а даходнасьці будзе вельмі мала. Так жыта не ўрадзіла, канюшына прапала, яравына ідзе слабавата. Такім чынам гэты год будзе галотны, вельмі цяжка будзе прахагаваць скаціну і г. д.

Апрача гэтай матэр'яльнай беднаты, адчуваецца нейкая пустата і ў галіне культурнаасьветовай. Ня чуваць нешта тэатральных прадстаўленьняў, гэтых разсаднікаў беларускай культуры. Куды ня глянь — усюды безпра-

сьветная цемра. За апошнія часы ўзмоцнілася на вёсцы п'янства. Часьцей сталі здарацца розныя крывавыя бойкі і нават забойствы, у п'яным стане. Дзеці бегаюць па вуліцам без жаднага дагляду. Што навучыліся за зіму, дык за лета забудуць. А ты купляй без канца сшыткі, кніжкі, алоўкі бяз жаднае карысьці для дзіцяці.

Прыходзіцца шмат цярпець крыўды і ад маяйсцовае адміністрацыі, якая часта ня хоча зразумець цяжкага палажэньня сялянства, вымагае немагчымага.

Калі хоць крыху прыглядзецца да нашага вёскавага жыцьця, дык адразу можна сьцьвярдзіць, што вінавайцай нашага гаротнага жыцьця ёсьць наша неарганізаванасьць.

*Весковец.*

## Цяжкае жыцьцё.

(в. Сычавічы Рацашкоўскае вол.).

У сёлятнім годзе, як усім вядома, шмат ходзе рознае гутаркі, як аб пагодзе, ураджаях ды іншым. А цяпер ужо зачалі гаварыць аб скančэньні сьвета. Гэтыя гутаркі паўсталі дзякуючы рожным стыхійным бедзтвам. Ураджаі зусім благія, жыта выпрэла, бульба не паўвыходзіла, сенакосы не растуць, вадта ўсё ідзе марна. Старыя ходзяць пахмурвеўшы, а тут яшчэ і пажары не мінаюць. На сьв. Барыса згарэла гаспадарка беднага зусім Фэлькі Нарубня, а цяпер згарэў ток і пуня мала заможнага Аляксея Забарэнка. Трэба адбудаваць, а няма з чага. Ф. Нарубню п. Ал. Янішэўская абецала даць на хату і замоўкла, а А. Заб ужо і прасіць не пайшоў, бо надарэмна ногі і рукі цалаваць. Дзе-ж там яна дасьць якое бервяно, калі пасьля вятроў аддала на пачыстку лес, сукі і тонкія выварактки, а цяпер не дае вазіць і кажа, каб плацілі, або палолі ей.

Дык ня дзіва, што пры такім жыцьці пачалі гаварыць аб канцы сьвета.

*М. Бярозка*

## Жыдоўскі мяшок!

(в. Карабкі Маладэчанскага пав.).

На паседжаньні Гарадэцкае Рады Гміны Маладэчанскага павету ў канцы мінулага году разглядалася справа залажэньня электроўні ў мястэчку Гарадку. Залажыцялямі электроўні зьяўляюцца жыды: Шмуільсон і Зальман Каценелін. Дагаварыўшыся з войтам, зьвярнуліся да Гміннай Рады ў Гарадку, каб Рада ухваліла 35,000 пазычку на будову электроўні. Пазычка бярэцца на 20 гадоў і прыдзецца гміне плаціць каля трох тысяч што год процэнтаў, а праз 20 г. сплачываць пазычку.

Населяюць наш Гарадок пераважна жыды, хрысціян зусім мала. У урадзе ёсьць аж чатыры жыды, дык свой свайго падтрымлівае. Выбралі камісію з радных, каб камісія аб'яжджала па мястэчках і паглядзела, дзе як жывецца з электрыкай, а прыехаўшы ў сваю гміну, мусяць раз'ясьніць іншым радным, якія мусяць прызнаць пазычку.

На паседжаньні Гміннай Равы 7—VII г. г. Рада ўхваліла зьмяніць назову вуліцы ў мястэчку Городку Маладэчанскага павету. Вуліцу Маладэчанскую назвалі вул. Пілсудзкага, вуліцу Валожынскую—на вул. Міцкевіча і г. д.

*Тутэйшы.*

## Спэктакаль „Kółka Młodzieży.“

(Дзедаўшчына гм. Бевіцкай.)

Дня 17.VI.-1928 г. праз польскае „Kółka Młodzieży“ (Гурток моладзі) быў наладжаны спэктакаль. Ігралі дзьве сцэнкі (можна сказаць, дзіцячыя), адна з жыцьця польскіх паўстанцаў другая нешта дзяцінная п. н. „Напад бандытаў“. Ігра артыстаў зусім дрэнная і мала цікавіла глядзельнікаў. Як выкананьні ігры, так і вопраткі далёка да адпаведнасьці. „Артысты“ былі незагрымаваныя, што вялікі мінус. Роляў сваіх ня ведалі, а толькі „лыпалі вачыма“. Парадак на салі, дзе адбываліся скокі, быў зусім недапушчальны. Калі некалькі з прысутных пачалі беларускі танец лявоніху, то некаторыя адзінкі адскакавалі ды непрызваітымі прытычкамі перашкаджалі. Ну, але хто зьвяртаў увагу?

Ці вы паночкі былі на спэктаклях у аддзеле ім. Я. Купалы Акружной Рады Бел. Т-ва „Прасьвета“? Калі-ж на былі, то раджу быць. Дык там навучыцеся парадку, які я заўважыў, куды лепшы. Быў кожны здаволяны і зацікаўлены.

*Прысутны.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Новы спосаб вырабу зямлі

(сыстэма д-ра Бушмэстэра).

Вялікая вайна выклала застой земляробства амаль ня ў-ва ўсіх, як прамысловаземляробскіх, гэтак і чыста земляробскіх дзяржавах. Адчувалася, што на ратунак склаўшаеся сытуацыі трэба выдумаць штосьці новае, што найхутчэй выклікала-б земляробства, гэтае галоўнае крыніцы іставаньня чалавецтва з яго заняпаду. Пашлі дыскусіі, спрэчкі, з'езды. Лепшыя адукаваныя гаспадары прапанавалі новыя сыстэмы апрацоўкі зямлі, якія ўсебакова разглядваліся і дасьледваліся.

У гэтым нарысе мы разглядзімо сыстэму д-ра Бушмэстэра, які ў сваей кніжцы „Die Exakte Bodenwirtschaft“, прапануе для ратаваньня нямецкага земляробства сваю сыстэму, дзе ўсё абдумана і праверана шматгадовымі дасьледамі.

Сыстэма гэта можа добра надацца і для нас таму, што яна вымагае шмат рабочых рук, чаго ў нас, як вядома, не бракуе.

Сыстэма гэта кладзе новыя пагляды на закон росту расьліны. Гэты закон закратвае ня толькі **спажыву**, але **цяпло, паветра ў зямлі, сьвятло і ваду.**

Ад прысутнасьці, ці недахопу аднаго з гэтых фактароў, хапя-бы ўсе іншыя былі ў дастатку, расьлінка расьце слаба, ад чаго і бываюць дрэнныя ўраджаі.

Каб падняць ўраджайнасьць зямлі, сыстэма Бурмэстэра рэкамэндуе ўжываць **спэцыяльную глыбокую ворку, сільнае ўгнаеньне, рэдкі пасеў і міжрадковую апрацоўку ральлі.**

**Глыбокая ворка глебы.** Ужо ад аднэй механічнай апрацоўкі зямлі, калі палепшаецца структура (будова) зямлі і лепш ужываецца ўраджаем угнаеньне, мы можам падняць ураджайнасьць сваей нівы. Апрацоўка ральлі тут пачынаецца яшчэ ў часе росту збожжа, якое трэба сеяць радкамі спэцыяльнымі радкавымі сяўнікамі. Потым зараз-жа па зборы збожжа, зямля арэцца. Тут ня трэба шкадаваць, што трава не скарыстаецца жывёлай, дзеля таго, што гэта страта акупаецца з барышом наступным ураджаем. Скаціна на узгоранае і пабаранованае (валакушай) поле ня выганяецца, бо ў праціўным выпадку ўся праца гаспадара марнуецца. Арэцца глеба да тэй глыбіні, да якой дазваляе яе слой, асьцярагаючыся лішне дзікай зямлі на верх ня выкідваць. Спэцыяльную глыбокую ворку д-р Бушместэр раіць рабіць асбым плугам з паглыбячам. Вясной, каб ня высушыць ральлю, зямлю часта ня варта араць, а даволі толькі абмяжавацца успульхненьнем верхняга слою, каб перарваць капілярнасьць — падыйм вады з ніжэйшых слаёў у верхні, які аддае яе ў паветра.

**Угнаеньне.** Новым у сыстэме Бушмэстэра ёсьць спосаб і колькасьць ужываньня штучнага угнаеньня. У добрых умовах росту, расьліны могуць браць з зямлі шмат больш пажыўных матэрый, чым мы даём іх цяпер. Адношаньне азоту, фосфару і паташу павінна быць як 2:1:3 у акопавых праслін; 2:1:1 4 каласавых.

**Рэдкі пасеў,** перадусім на землях лёгкіх і сухіх, робіцца з тэй мэтай, каб расліны менш выпарвалі вады, чаму яшчэ дапамагае між радковая апрацоўка глебы. Апрача таго, рэдкі пасеў перасьледуе мэту, каб для расьлін ня было замала сьвятла, што заўсёды здараецца пры густым пасеве.

Што-жа тычыцца паветра, катарага можа не хопіць на глебах мокрых і цяжкіх, дык добрая апрацоўка зямлі паміж радкамі і асушка брэнамі можа зрабіць так, каб гэты чыннік не застаўся ў зямлі ў найменшай колькасьці.

**Міжрадковы выраб зямлі** робіцца з тэй мэтай, каб даць доступ паветру аж да самага падглеб'я. Зразумела, што пасеў тут трэба рабіць спэцыяльнымі машынамі (радковымі сяўнікамі), якія час нашым гаспадарам набываць супалкаю.

Разглядваючы гэту сыстэму з боку прыгоднасьці яе да нашых умоў, дзе яшчэ самадзяржаўна пануе ў сельскай гаспадарцы традыцыя, старыя бацькоўскія звычаі, трэба сьцьвярдзіць, што лепшыя перадавыя гаспадары зьвернуць на яе сваю ўвагу і разважыўшы, што для іх тут карысна, паступова пачнуць пераходзіць да гэтае сыстэмы. Трэба думаць, што сыстэма д-ра Бушмэстэра адыграе паважную ролю ў адраджэньні ў нас сельскае гаспадаркі і ў паляпшэньню эканамічнага стану нашае Бацькаўшчыны.

**Гаспадар.**

## Як павялічыць сваю пасеку.

(з уласнае практыкі)

Калі пчаляр думае павялічыць за кароткі час сваю пасеку, дык тут трэба зьвярнуцца да штучнага раеньня, якое пры разумным і пільным назіраньні за самым працэсам можа даць пчаляру пажаданыя вынікі. Есьць некалькі способаў штучнага раеньня, але шмат якія клапатлівыя, займаюць даволі часу і вымагаюць ад пчаляра клапотаў. Я некалькі гадоў пробаваў адзін спосаб, рэкамандаваны вучэбнымі пасекамі, які тут і апішу.

Гэты спосаб, як і іншыя, грунтуецца на тым, што пчолы прывыкаюць да таго месца, дзе стаіць іх вулей. Беручы гэта пад увагу, можна ў гарачы дзень, калі пчолы вылятаюць з вулья за мядовай пыльцай, аднясьці вулей на бок мэтраў на 30 — 40, дык пчолы, варочаючыся з лёту, не знаходзяць вулья на старым месцы. Калі на гэтым месцы паставіць новы вулей, дык пчолам нічога не астаецца, як увайсьці ў новы вулей.

Цяпер, калі мы, напрыклад, маем пасеку з двух моцных сямей, з якіх адна жыве ў вульлі № 1, а другая ў вульлі № 2, каб атрымаць з іх добрую трэцюю сям'ю, робім так: у гарачы дзень, калі пчолы вылецелі на працу, мы паднясём к вулью № 1, пусты рамавы вулей № 3. Адчынім вулей №3, вымем з яго амаль усе рамкі з дзеткай, але бяз пчол, якіх абтрасаем назад у вулей № 1; у вульлі заставім адну—дзьве рамкі з дзеткай. Узятыя рамкі пераносім у пусты вулей № 3. У вулей-жа № 1 на места ўзятых рамак паставім штучную вашчыну; вульлі № 1 і № 3 закрываем. Вулей № 1 застаўляем на старым месцы і больш яго не чапаем. Вулей-жа № 3, у які мы перанясьлі рамкі з дзеткай і ў якім пчол пакуль няма, мы аднясём і паставім на месца вулья № 2, а астатні (№ 2) аднясём на 30 — 40 мэтраў на этарае места. Тады усе лётныя пчолы з вулья № 2, вяртаючыся з лёту, ня знойдуць свайго вулья на старым месцы, але замест яго знойдуць новы вулей № 3, дзе яны знойдуць соты з дзеткамі і яечкамі, але ня знойдуць маткі. Першы дзень пчолы будуць непакоіцца, але потым хутка пачнуць выводзіць маладую матку і заложаць матачнікі. Праз 12—15 дзён у іх будзе маладая матка, з якой яны і пачнуць новае жыцьцё.

Перавага апісанага спосабу будзе ў тым, што тут усе тры сям'і застануцца сільнымі. Сям'я вульля № 1 будзе даволі сільнай таму, што мы ўзялі ад яе толькі рамкі з чарвой, усіх-жа пчол і матку заставілі ў сваім вульлі. Гэта сям'я будзе адчуваць сябе на палажэньню рою і возьмецца рашуча за працу і вывад маладой пчалы. Сям'я вульля № 2 страціць усю лётную пчалу; застанецца толькі маладая пчала і матка, але ў гэтым вульлі будуць усе соты з дзеткай, якая будзе выходзіць у бліжэйшыя дні і хутка папоўніць страчаную лётную пчалу. Новы вулей № 3 будзе мець таксама добрую сям'ю, дзе будзе поўны запас сотаў з дзеткай і лётную пчалу.

Скажу яшчэ аб вывадзе добрай маткі.

У вульлі № 3, дзе пчолы застануцца бяз маткі, будуць імі заложаны хутка матачнікі. Такіх матачнікаў моцная сям'я заложыць штук 6 — 10. Ня з кожнага матачніка будуць добрыя маткі. Гэта залежыць ад таго, што адны матачнікі будуць заложаны на чарвячкох, а другія на яечках. Лепшымі маткамі будуць тыя, якія заложаны на яечках. Пазнаць гэта лёгка. Тая матка, якая заложана на чарвячку, будзе закрыта праз 3 — 4 дні, а заложаная на яечку не раней 5 дзён, бо чарвячок расьце ня менш 5 дзён. Значыцца, на шосты дзень пасьля раеньня трэба абглядзіць вулей № 3 і выразаць усе матачнікі, якія ўжо аткрыты, пакінуты толькі адкрытыя.

Асаблівую увагу ўсіх пчаляроў зьвяртаю на правіла, што штучнае раеньне можна рабіць толькі тады, калі сем'і ўмацаваліся і калі на пасецы ўжо лётаюць трутні.

**Пчаляр.**

## Ці варта падкармліваць летам кароў

З пачатку лета, пакуль трава маладая, кожны гаспадар бачыць, як у яго кароў малака прыбывае; але ўжо пасярод лета — як-бы не пасьвіў кароў, а малака ўбывае. Прычына гэтаму тая, што ў маладых травах пажыўных частак куды больш, чым у старых, дык хоць і наесца карова гэтай старай травы, але пасілак з яе слабы, вось ад чаго малако і ўбывае. А калі да гэтага далучыць, што там, дзе пашы амаль няма, дык карова часта варочаецца дамоў паўгалодная. Ад такой каровы карысьці гаспадару чакаць ня трэба. Між тым сягоньня карова ў гаспадарцы ёсьць найкарысьнейшая жывёла і калі гаспадар паруліцца яе прыкармліваць у хляве, дык страты на прыкормку яна хутка аплоціць з барышом лішкам малака.

Каровам нядаўна ацяліўшымся трэба даваць праз першы тыдзень што дня па 1/2 фун. жмыхаў, або па 1 фун. вотрубей; праз другі тыдзень па фунту жмыхаў, або па 2 фунты ватрубей; праз трэці — на паўтара фунта жмыху, або па 3 ф. вотрубей і г. д., аж пакуль ня дойдзем да трох фунтаў жмыхаў, або да 6-ці фунтаў вотрубей. І гэтак даваць да канца лета. Ад пачатку жніўня можна яшчэ даць кошанае травы.

Каровам, якія даюць яшчэ каля двух гарнцаў малака, трэба даваць макуху, або жмыхі ад пачатку ліпня і паступова дачу гэту павялічываць, пакуль норма ня дойдзе да 3-х фунтаў у дзень на штуку.

Каровам, якія даюць меней малака, можна гэтай прыкормкі і нядаваць, але кошанае травы трэба даваць каровам і запусьціўшімся, памятуючы тут, што гэта прыкормка добра адаб'ецца на наступным удою.

Калі ў ліпні, або ў жніўні карова ацеліцца, дык трэба мяркаваць, каб тут вылічана прыбаўка корму было і на дзіця, якое сьсе матку.

Агульніваючы ўсё вышэй сказанае, трэба дадаць, што ўсе гэтыя рады ня могуць быць аптэчнымі рацэптамі, якіх у сельскае гаспадарцы наагул трудна даваць, бо тут шмат залежа ад усялякіх мясцовых умоў, ад самае жывёлы і г. д. Але рады гэтыя, хоць і агульніковыя, але выпрактыкаваныя і пры разьвіцьці нашае жывёлагадоўлі могуць паслужыць на карысьць гаспадару. Ад яго спрыту і розуму залежыць, як іх ляпей для сябе выкарыстаць.

Чым хутчэй нашы сяляне пойдуць за імі, тым раньш вызваляецца з убоства.

*Зоотэхнік.*

## Даходнасьць ягад.

Шмат ёсьць такіх гаспадароў, асабліва на Беларусі, што на ягады глядзяць, як на ласункі. Між тым ягады могуць прынясьці ў гаспадарку летам — у самае безграшоўе на вёсцы не адну залатоўку. Апрача таго самыя ягады карысна ужываць для здароўя. Суніцы і клубніцы можна зьмясьціць на дзесяціне да 43 200 кустоў. Пры правільным даглядзе за ягадамі іх з дзесяціны можна атрымаць каля 8.000 кіл., а прадаць можна па 1 зл. за кілёграм.

Маліна таксама выгадна, як і суніца. Яе зьмяшчаецца на дзесяціну да 2 кіл. з куста, а з дзесяц. каля 10.100 кіл. Парэчак на дзесяціну зьмяшчаецца да 3,600 кустоў. З кожнага куста 2 кіл., а з дзесяц. 7 200 кіл. пры цане 25 гр. кілёграм. Агрэст разьмяшчаюць у садзе, як і парэчкі. Куст можа даць да 4 кіл. цана агрэста каля 25 гр. кіл.

З гэтага мы бачым, наскокькі карысна разводзіць ягады. Асабліва на гэта трэба зьвярнуць увагу тым сялянам, якія жывуць недалёка ад вялікіх гарадоў, як Вільня, Горадня, Беласток і іншыя.

Ягады ўжываць можна ня токькі сырымі, але іх можна сушыць, рабіць з іх мармаляду і г. д.

## Гаспадарская кухня.

(Агульныя парады для гаспадынь).

Усю кухарскую працу нашых гаспадынь належыцца трактаваць вельмі паважна, нароўні з найважнейшымі гаспадарчымі справамі. Толькі той, хто з увагай гатуе сабе страву,

патрапіць зрабіць пажыў добры, смачны і здаровы, які-б заўсёды адпавядаў і варункам матэр'яльным данага гаспадара.

Каб атрымаць страву смачную, пажыўную паводле сваіх матэр'яльных варункаў, дык патрэбна трымацца кожнай гаспадыні пэўных вымаганьняў здаровай прыкладнай кухні.

Першым такім вымаганьнем зьяўляецца чыстасьць. Дзеля гэтага галоўную ўвагу нашы гаспадыні кухаркі мусяць на яе зварочваць. Кожная гаспадыня перш-найперш мусіць старацца аб утрыманьні ў чыстаце сябе самую, а пасьля ўсё кухоннае начыньне.

Дзеля гэтага час ад часу належыцца ўсё начыньне выгатаваць драўляным попелам, а пасьля перад ужываньнем за кажным разам выпарыць варам. Усё кухоннае начыньне пасьля ўжытку абавязкава павінна быць хаванае ў замкнутыя шафы, або якія скрынкі, каб забясьпечыць ад пылу і мух, якія распашыраюць розныя хваробы.

Трэба сьцерагацца ўжываць для гатаваньня стравы начыньня медзянага і масенжнага, бо страва, згатаваная ў такіх судзінах, вельмі шкодная на здароўе кожнаму чалавеку. Найлепей выбіраць для ўжытку кухні начыньня камянна-гліняныя. Набыўшы такую пасудзіну, трэба яе спачатку добра выгатаваць вадой, а пасьля вымазаць тлушчам і на пару мінут уставіць у лёгкі дух вытаплянай печы, каб гэты тлушч хутчэй упіўся ў сьценкі данай судзіны. Апроч гэтага да ўжытку кухні добра прыдаецца таксама ўсякае начыньне зялезнае. Яно ніколі здароўю ня шкодзіць і ёсьць вельмі даўгавечная і моцная. Чым даўжэй начыньне зялезнае ўжываць, тым яно становіцца мацнейшым і лепшым. Перад першым толькі ўжыткам трэба яго выпарыць моцным лугам і таксама вымазаць тлушчам. Зялезную судзіну ніколі ня можна ставіць пустой на агонь, бо адстае тады пабела (глазура) і судзіна псуецца. Калі кухарка жадае, каб яе катлы і звонку мелі чысты выгляд, дык каб лягчэй можна было адмываць ад закапчэньня, няхай зробіць цеста з вады і попялу і кожны раз перад устаўленьням у печ няхай гэтым цестам шмаруе вонкавыя бакі катла, ці наагул данай суд іны. Другім такім пунктам вымаганьня ад кожнай гаспадыні павінна быць рупнасьць. Кожная гаспкдыня павінна рупіцца, каб усе спажыўчыя прадукты мелі свой належны дагляд. Дзеля гэтага патрэбна, каб сьпіжарня, ці як у нас называюць вараўня, была заўсёды сухая і праветраная. Падчас гарачых ночаў, вокны павінны быць адчыняныя, а ў дзень старацца ўпушчаць паветра як найменш.

Усякія расьціны і мяса трэба трымаць у найбольш зімным месцу і сьцерагчы іх перад мышамі, мухамі і катамі. Прадукты мучныя і ўсякія сушоныя пляды трэба заўсёды трымаць у сухім і праветрамым месцу. Таксама ўсе прадукты трэба сьцерагчы ад сільнага марозу, бо перамарожаны пажыў страціць свой пачатковы смак. Усякая-ж дзічына, таксама і хатні дроб (куры, вуткі і г. д.) перамарожаны звычайна бываць смачнейшымі. Пры выбіраньні на пажыў мукі трэба глядзець, каб яна была сухая і ня пахла ніякай гнільлю. Кожную муку перад ужыткам трэба пересеіць праз сіта. Яйкі трэба трымаць у месцы зімным і ніколі не класьці адно на другое, але заўсёды побач. Сьвежасьць яйка можна пазнаць заўсёды на залатавым празрыстым жаўтку. Яйкі гнілыя зусім не прапушчаюць сьвету, або калі трошку прапушчаюць, то на жаўтку можна ўбачыць чорную пляму гэта значыць, што яйко ўжо пачынае псавацца. Хочачы ў зімовы час мець запас яек, трэба зрабіць гэтак! У зімным месцу трэба паставіць бочку і складаць радамі яйко на яйко ці іначай на адзін рад накладаць другі і ня трэба нічым перасыпаць, а наступна ўзяць досьць густа распусьціць у вадзе вапны і заліць ей спакаваныя яйкі і ад часу да часу пры высыханьні вады з бочкі, трэба патрошку падліваць сьвежай. А калі такія зьмерзшыя яйкі захочам ужыць да кухні, дык каб адтаялі, трэба ўлажыць іх да халоднай як лёд вады, бо іначай раптоўнае разграваньне можа папсуць усе стараньні аб утрыманьні яек.

Добрае масла не павінна быць белым, але лёгка—жаўтаватым. А калі масла ёсьць занадта жоўтым, дык значыць яно або падробленае, або—паходзіць ад хворай каровы. Летам масла патрэбна трымаць у судзіне з моцна салёнай вадой і ў зімным месцу.

Варыва павінна трымацца ў найсьвяжэйшым стане і заўсёды ў вараўнях сухіх і з доступам паветра. Моркава павінна выглядаць гладкай і чырвонай, капуста сьвежай і цяжкай (ваґкай), рэдзька гладкай і круглавай, агуркі зялёнымі і ніколі жоўтымі, як у нас часта сустракаецца. Буракі павінны выглядаць спічастымі і коляру цёмна-чырвонага, капуста зімовая бывае смачнейшай, калі трошку і прымерзьне.

Кіруючыся жменькай гэтых парадаў, кожная гаспадыня патрапіць сабе прыгатаваць страву пажыўную, здаровую і бяз вялікіх высілкаў з матэр'яльнага боку.

Добра таксама ведаць кожнай гаспадыні, што карысьней і здаравей карміць сваю сям'ю часта і не даваць аб'ядацца ні дзецям, ні старэйшым асобам, ніколі ня трэба есьці рэдка і вельмі шмат.

Яду падаваць найлепей і найкарысьней для цэлай сям'і ў азначаныя гадзіны. Бо да гэтага прызвычайваецца і жалудак чалавека, а калі людзі не трымаюцца акрэсьлянага спэцыяльна часу, дык часта бываюць недаразуменьні ў жалудку, якія часамі канчаюцца вельмі кепска.

# Моладасьць.

Эх ты моладасьць
Сілы поўная,
Не сядзі-ж ты так
Нявымоўная.
Ты ляці у сьвет
Арлом, сокалам,
Падымісь у вышч,
Глянь навокала.
Ды шыбні адтуль
У гару да зор
Ў бліскавічны час
Абымі прастор.
Разьмяці, разьвей
Ўсё шкадлівае.
Хай жыве зярно
Урадлівае.

*Ул. Берняковіч.*

## УСЯЧЫНА

### Кітайскі Мафусаіл.

Карэспандэнту англійскіх газэтаў удалося знайсьці ў Кітаі старыка Чы-Чынг-Юн, які пражыў 250 г. Ён мудрэц, мае шмат вучняў, якім дае навуку, як дажыў да эткай старасьці.

Ён радзіць: быць заўсёды спакойным, хадзіць лёгка, як птушка, спаць, як сьпяць сабакі... Ён займаецца гандлем лячэбных траваў.

Жоўты патрыярх быў жанаты 14 раз і мае патомства 180 чалавек. Узрок мае добры, усё помніць і мае самыя доўгія пазнокці ў Кітаі.

## Куток жартаў і сьмеху

### Памагло.

— Дзеля чаго гэты вузялок на хустцы для носа?

— А, гэта мая жонка мне зрабіла, каб не зябыў укінуць пісьмо у паштовую скрынку.

— Ну і што-ж, укінуў?

— Не, бо мнэ забыла яна даць.

### Разумны хлопчык.

Хлапец да сваей маткі:

— Мама, я ведаю цяпер, чаму курчаты выходзяць з яйка.

— Матка: Ну, чаму-ж?

— Хлапец: Бо яны баяцца, каб іх не зварылі.

### Заручаныя.

Кавалер да сваей заручанай:

— Толькі прашу цябе, мая дарагая, нікому не ггвары, што мы заручыліся.

— Заручаная: Скажу толькі Зосі, бо яна мне казала, што не знойдзецца дурэнь, які-б на мне жаніўся.

## Паштовая скрынка.

М. Швэд. 2 зл. атрыманы. Газэта высылаецца Румянцаўскі Аддел „Прасьветы", Прасімая кніжка выслана

М. Цыбуля. Ваша карэспандэнцыя аб М. Станкевічанцы ня будзе зьмешчана. Абрыдла ўжо аб гэтым пісаць.

Ул. Кайточ. Вашыя вершы не надаюцца для друку.

Алесь Ручаёк. Вашая казка „Гора" ня будзе зьмешчана у газэце.

Я. Купрыновіч. Ваш матэр'ял аб сельскай гаспадарцы ня будзе зьмешчаны дзеля таго, што у гэтай галіне у нас працуе спэцыяліст — аграпом. Карэспандэнцыі прысылайце.

М. Кобаку — пав. Вялейскі — Пробны нумар высылаем.

Выбаршчыку і Вясковаму — Карэспадэнцыі атрымалі. Падойдуць і будуць надрукованыя — частка у „Бел. Радным", а частка у „Грамадзяніне".

Пчолка. Карэспандэнцыі усе будуць выкарастаны. Высылаем за зьмешчаньня у гэтым нумары матар'ял 12 зл.

Э Сабіла. Адказ на Ваша запытаньне даем у пісьме

Прахор Марны. Ваша апавяданьне атрымалі. Зьмешчана будзе. Лепей пішыце карэспанденцыі, але ў беларускай мове.

Іскры — Карэспандэнцыя добрая, пойдзе ў наступным нумару.

## АБВЕСТКІ.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.